# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 15 снежня 1994 года | № 134 (10834) | Цана 80 руб.

ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## *Новы кіраўнік Гродзенскага аблвыканкома*

На нечарговай сесіі Гродзенскага абласнога Савета абраны новы кіраўнік аблвыканкома. Гэтую пасаду заняў 58-гадовы Аляксандр Дубко, кіраўнік знакамітай аграфірмы "Прагрэс" Гродзенскага раёна, лідэр Саюза аграрнікаў Беларусі. За прапанову Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб выбранні А.Дубко старшынёй аблвыканкома прагаласавалі 108 дэпутатаў са 162 прысутных на сесіі. Супраць былі 15 дэпутатаў, 18 — устрымаліся. Былому кіраўніку выканаўчай улады на Гродзеншчыне Сямёну Домашу, які працаваў на гэтай пасадзе крыху больш года, пакінуты "партфель" старшыні абласнога Савета.

Затым дэпутаты прынялі рашэнне аб структуры абласнога Савета дэпутатаў.

У заключэнне з вялікай прамовай выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

## Першыя вынікі рэалізацыі праграмы

Папярэднія вынікі рэалізацыі першага этапа праграмы неадкладных мер па выхаду Беларусі з крызісу былі падведзены на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Кабінеце Міністраў. Віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг паведаміў, што, пачынаючы са жніўня, назіраецца замаруджванне спаду вытворчасці, а ў некаторых галінах — павелічэнне аб'ёмаў выпуску прадукцыі.

Кабінет Міністраў, падкрэсліў Сяргей Лінг, не дапусціў разбурэння бюджэту. Дэфіцыт склаў 4,2 працэнта замест зацверджаных Вярхоўным Саветам 6 працэнтаў. Паводле слоў віцэ-прэм'ера, першыя вынікі далі меры па лібералізацыі экспарту.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір расказаў журналістам аб напрацоўках урада за апошні тыдзень. Кабінетам Міністраў падрыхтаваны праект бюджэту на 1995 год, які будзе вынесены на абмеркаванне парламента. Складзены прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на будучы год. У 1995-м чакаецца зніжэнне аб'ёмаў прамысловасці на 1,6 працэнта ў адносінах да ўзроўню бягучага года. Пры росце індэкса цэн у 3,5 раза адпаведна на гэтую ж лічбу павінны павысіцца і даходы насельніцтва.

Праўда, Міхаіл Чыгір выказаў заклапочанасць наконт магчымага змянення цэнавай палітыкі ў Расіі. Калі РФ пяройдзе на сусветныя цэны на энергарэсурсы, то дадатковыя расходы ў Беларусі складуць 500 мільёнаў долараў, што можа істотна адбіцца на развіцці эканомікі ў цэлым.

Кіраўнік Кабінета Міністраў паведаміў, што ў суботу адбылася сустрэча з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, у ходзе якой абмяркоўвалася рашэнне ўрада павялічыць з 25 снежня цэны на камунальныя паслугі. "Выраўноўваючы цэны на камунальныя паслугі, мы будзем аднačасова адпрацоўваць сістэму датацый. Нам удалося пераканаць прэзідэнта, што гэтае рашэнне правільнае і павінна працаваць", — сказаў Міхаіл Чыгір.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЗАКОН АБ ВЫБАРАХ: ЦІ ТО ЁСЦЬ, ЦІ ТО НЯМА?

**29 лістапада члены Вярхоўнага Савета, здавалася б, паставілі кропку ў дэбатах наконт змяненняў і дапаўненняў у Закон аб выбарах. Паколькі гэты заканадаўчы акт мае велізарную грамадскую значнасць, было паабяцана, што адразу ж пасля падпісання яго прэзідэнтам ён будзе апублікаваны. У друку новы закон не з"явіўся.**

Як аказалася, лёс закона — справа няпростая, паколькі, перш чым уступіць у сілу, ён павінен "прайсці" па многіх калідорах і кабінетах. У прыватнасці, Канстытуцыяй вызначана, што прэзідэнт мае права не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін з дня атрымання закона вярнуць яго ў Вярхоўны Савет для паўторнага разгляду. Закон не вернуты. Прынамсі, старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык прызнаўся, што не мае звестак наконт таго, ці падпісаны закон прэзідэнтам, і менавіта гэта ўскладняе падрыхтоўку праекта пастановы Вярхоўнага Савета аб назначэнні даты выбараў дэпутатаў новага склікання.

Начальнік юрыдычнага ўпраўлення ў прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандр Марыскін таксама не змог праліць святло на лёс закона. Ён толькі выказаў меркаванне, што прэзідэнт, відаць, закон падпіша. Праўда, Аляксандр Марыскін растлумачыў, што вызначаны Канстытуцыяй 10-дзённы тэрмін для вяртання закона на паўторнае абмеркаванне і галасаванне рэгламентуе толькі выпадкі, калі прэзідэнт выказвае свае заўвагі па законапраекту. І па логіцы пасля заканчэння гэтага тэрміну прэзідэнт ужо не можа выказаць свае прэтэнзіі заканадаўцам.

Аднак пакуль ніхто не бярэцца сцвярджаць, што ўнесеныя Вярхоўным Саветам змяненні і дапаўненні ў Закон "Аб выбарах" уступілі ў сілу. Хоць нават калі зыходзіць з таго, што на прэзідэнцкі стол закон трапіў праз некалькі дзён пасля прыняцця яго дэпутатамі, то тэрмін усё роўна скончыўся. Прынамсі, галоўны закон рэспублікі — Канстытуцыя — вызначае, што калі ў 10-дзённы тэрмін законапраект прэзідэнтам не вернуты, то ён лічыцца падпісаным.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЭКАНАМІЧНЫ КУРС ПАТРАБУЕ КАРЭКЦІРОЎКІ

Сёння для большасці жыхароў Беларусі з усёй вастрынёй паўстала пытанне: як выжыць? Спыняюцца прадпрыемствы, скарачаюцца рабочыя месцы, груба парушаюцца правы грамадзян на працу і дастойную заработную плату. Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі неаднаразова звярталася да прэзідэнта, Кабінета Міністраў рэспублікі з патрабаваннямі пакласці канец цэнаваму бязмежжу, спыніць спад вытворчасці, прадухіліць збядненне людзей і масавае беспрацоўе.

Як заявіў карэспандэнту Белінфарма сустаршыня Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Рэспублікі Беларусь Генадзь Фядыніч, «прафсаюзы не проста настойвалі на каардынацыі курсу эканамічных пераўтварэнняў, але і ўносілі канкрэтныя прапановы па вываду эканомікі з крызісу. Аднак урад, парушаючы ўзятыя на сябе ў Генеральным пагадненні абавязацельствы, фактычна перакладвае ўвесь цяжар праводзімых рэформ, свае пралікі і памылкі на плечы працоўных. Ужо сёння большасць насельніцтва краіны знаходзіцца за мяжой беднасці, штодзённа сутыкаючыся з абяздоленасцю і галечай».

У сувязі з сур"ёзнасцю становішча прэзідыум Савета ФПБ звярнуўся да прафсаюзных арганізацый і працоўных калектываў з прапановай шырока абмеркаваць узнікшую сітуацыю. У звароце гаворыцца, што антыкрызісная праграма выконваецца аднабока: не ствараюцца ўмовы для ўздыму вытворчасці, у бядотным становішчы апынуліся навука, адукацыя, ахова здароўя, зніжаецца цана добрасумленнай прадукцыйнай працы. Па сутнасці страціла ўсякі сэнс мінімальная заработная плата. Цяпер яе размер пакрывае менш чым 10 працэнтаў неабходных расходаў чалавека на жыццё. Значна ніжэйшай за ўзровень мінімальнага спажывецкага бюджэту аказалася сярэдняя зарплата ў народнай гаспадарцы. Чалавек-працаўнік фактычна не можа пракарміць нават сябе.

ФПБ адзначае, што ўведзеныя ў апошнія дні свабодныя цэны на асноўныя прадукты харчавання і аб"яўленае ўрадам павышэнне тарыфаў на жыллё ставяць на мяжу фізічнага выжывання тых, хто жыве на працоўныя даходы. У вытворчых калектывах нарастае хваля нездавальнення і пратэсту. Таму прафсаюзамі прапануецца правесці сходы, мітынгі і іншыя масавыя акцыі супраць катастрафічнага зніжэння жыццёвага ўзроўню народа. «Наша агульная мэта, — падкрэсліваецца ў звароце прэзідыума Савета ФПБ да прафсаюзных арганізацый і працоўных калектываў, — прымусіць дзяржорганы прыняць тэрміновыя меры па карэкціроўцы эканамічнага курсу і ўзмацненню сацыяльнай абароны працоўных і іх сем'яў".

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Акцыя дабрачыннасці

## НАШЫ СЭРЦЫ—ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ

Дарагія суайчыннікі!

Стала ўжо добрай традыцыяй Дзіцячага фонду напярэдадні Каляд і Новага года праводзіць дабрачынную акцыю "Нашы сэрцы — хворым дзецям". У Мінскай вобласці з 15 снежня сёлетняга года па 15 студзеня 1995 года будзе праводзіцца гэтая акцыя, мэта якой — не пакінуць без увагі ні адно дзіця, штое апынулася ў бядзе.

Адрасатамі міласэрнасці стануць дзеці-інваліды, хворыя на анкалагічныя захворванні, цукровы дыябет, дзеці-сіроты, дзеці, чые бацькі загінулі ў Афганістане і пры выкананні службовага абавязку ў органах міліцыі, а таксама маленькія пацыенты бальніц і дыспансераў, якія сустракаюць Новы год па-за сценамі свайго роднага дома.

Мы звяртаемся з просьбай да ўсіх прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур, спонсараў з заклікам прыняць удзел у гэтай дабрачыннай акцыі. У яе правядзенні могуць удзельнічаць школьнікі, якія вырабяць для сваіх аднагодкаў цацкі і наведаюць іх дома ці запросяць да сябе на навагоднюю ёлку.

Наша задача — усім разам знайсці магчымасць і дапамагчы дзецям пераадолець хваробу, напаткаўшае гора.

Добраахвотныя ўзносы ад прадпрыемстваў, арганізацый і грамадзян на правядзенне дабрачыннай акцыі можна прысылаць на рахунак 707902 ва ўпраўленні Белбізнесбанка Мінскай вобласці, код 737, з паметкай **"Нашы сэрцы — хворым дзецям".**

Давайце разам зробім усё магчымае, каб падарыць хворым дзецям сапраўднае свята, веру ў дабро і цуд.

**Праўленне Мінскага абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду.**

## АПОШНІ МУНДЗІР "ВЕРТЫКАЛІ"

**Трыумфальнае шэсце прэзідэнцкай "вертыкалі" было крыху азмрочана ў Гродне і прыпынілася ў Мінску. Прызначэнне сталічнага мэра, без перабольшання, прыцягвае позіркі ўсіх назіральнікаў. А што датычыцца ўдзельнікаў падзей, дэпутатаў Мінгарсавета, то ў іх стане назіраецца павышанае ажыўленне.**

Дэпутаты не пажадалі прыняць прэзідэнцкія правілы гульні па зацвярджэнню старшыні выканкома, і на сесіі з гэтай нагоды разгарнулася гарачая дыскусія.

Дэпутат Гошка працытаваў назву параграфа са школьнага падручніка гісторыі: "Згортванне дэмакратыі ў 20—40-я гады". Тады таксама выбары органаў улады пачалі праводзіць з шырокім прыцягненнем грамадскасці, якая і павінна была забяспечыць бурныя апладысменты і авацыі.

Урэшце, выявілася, што дэпутаты не супраць правядзення сесіі па зацвярджэнню старшыні ў шырокай аўдыторыі. Але хто будзе выбіраць прадстаўнікоў на гэты форум?

Прагучала прапанова прыняць рашэнне аб парадку асвятлення сесіі ў сродках масавай інфармацыі. Пасля бурнага абмеркавання рашэнне было выпрацавана. Адно з галоўных яго палажэнняў настойвае на тым, каб прэзідэнт загадзя азнаёміў дэпутатаў з Указам аб прызначэнні старшыні.

Старшыня Мінгарвыканкома і Мінгарсавета Аляксандр Герасіменка паведаміў, што ён у пачатку тыдня сустракаўся з прэзідэнтам. Ішло дзелавое абмеркаванне надзённых праблем жыццезабеспячэння горада. Што датычыцца зацвярджэння старшыні Мінгарвыканкома, то наконт гэтага павінна адбыцца гаворка ў пятніцу, пасля таго як прэзідэнт вернецца з Гродна і Брэста.

На сесію групай дэпутатаў быў запрошаны памочнік прэзідэнта па асобых даручэннях Віктар Кучынскі, які меўся выступіць з паведамленнем аб выніках работы яго камісіі ў горадзе. Аднак, як адзначыў Аляксандр Герасіменка, гэтае выступленне было б заўчасным, бо спачатку па існуючай дамоўленасці Віктар Францавіч павінен азнаёміць з падагульняючай даведкай кіраўніка гарадскіх улад.

Тым не менш В.Кучынскі ўсё ж узяў слова.

Ён паведаміў, што прававое бязмежжа дасягнула апагея, настала пара змяніць уладу, але эвалюцыйным шляхам. Галоўнымі ж задачамі ўлады ён назваў аднаўленне кіруемасці ў краіне і ўмацаванне эканомікі. В.Кучынскі таксама выказаў спадзяванне, што дэпутацкі корпус Мінска не скоціцца да палітычных інтрыг.

— Палітыкі прыходзяць і адыходзяць, а людзі застаюцца, — так закончыў сваё кароткае выступленне В.Кучынскі.

Якую перспектыву закладваў ён у гэты афарызм, сказаць цяжка. Але тое, што людзям прыйдзецца вынесці на сваіх плячах яшчэ адно пакаленне палітыкаў — гэта факт.

Актыўнасць дэпутатаў прыкметна згасла, калі сесія пачала абмяркоўваць канцэпцыю сацыяльна-эканамічнага развіцця Мінска. Колькасць дэпутатаў у зале значна парадзела. Многія разышліся па кулуарах абмяркоўваць больш пікантную тэму, — тэму прымеркі апошняга мундзіра кіраўніка "вертыкалі", на якой будзе прысутнічаць прэзідэнт.

*Павел ВЕРАБ'ЕЎ.*

## МОЖАМ, КАЛІ ЗАХОЧАМ

У шахтах "Беларуськалія" бегаюць шэсць невялікіх, але даволі манеўраных аўтамабіляў, якія дастаўляюць гарнякоў ад ствалоў да забояў і назад. Ад іншага падземнага транспарту яны адрозніваюцца тым, што выраблены не за мяжой, а на Мінскім трактарным заводзе. Значыць, намнога таннейшыя, ды і з запчасткамі цяпер праблем не будзе.

У бліжэйшы час такіх машын павінна стаць у пяць разоў больш. Калійшчыкі заказалі машынабудаўнікам яшчэ адну мадэль аўтамабіля, які б мог перавозіць аднačасова і груз, і людзей. Бо сённяшнія падземныя грузавікі можа суправаджаць толькі адзін грузчык, што часта выклікае праблемы з дастаўкай цяжкіх вузлоў, механізмаў і іх выгрузкай — пад'ёмных кранаў у забоях, як вядома, няма...

Выходзіць, і мы многае можам, калі захочам...

*(Наш кар.).*

### Крымінал-тэлетайп

#### ЗЛАВІЎ ГРАБЕЖНІКАЎ–ЭЛЕКТРАТОК

Трагедыяй закончылася ў Слуцку спроба азалаціцца на крадзяжы і перапродажы медзі.

Рызыкоўную задуму мелі намер ажыццявіць рабочы мясцовага кансервавага завода з сябрам, рабочым чыгуначнай станцыі. Ноччу прабраліся ў памяшканне трансфарматарнай падстанцыі, каб абрэзаць медныя кантактныя пласціны. Толькі пачалі "аперацыю", як тут жа атрымалі смяротны ўдар электратокам. Для аднаго з "прадпрымальнікаў" вылазка аказалася першай і апошняй. Ледзьве жывы і другі.

#### "ТРАЯНСКІ КОНЬ" ПАД ПРЫЛАЎКАМ МАГАЗІНА

Хітры трук прыдумалі злачынцы, каб пранікнуць у магазін "Сузор"е". Днём даставілі халадзільнікі для рэалізацыі. Адна з упаковак была "нашпігавана"... жывым чалавекам. Ноччу ён вылез з укрыцця. Перапалоханага вартаўніка нейтралізаваў наручнікамі, спакойна адчыніў дзверы — уваход для саўдзельнікаў.

Аператыўныя работнікі Фрунзенскага райаддзела папярэджваюць: "траянскі конь" напэўна яшчэ ў сталіцы, але можа "скокнуць" і ў іншыя месцы. Таму — пільнасць і яшчэ раз пільнасць.

#### ПАПАЛІСЯ НА "ІГОЛЦЫ"

Ваеннай пракуратурай і супрацоўнікамі ўпраўлення барацьбы з арганізаванай злачыннасцю арыштаваны непрацуючы мінчанін. Прычына — з разраду неверагодных. Прад"яўлена абвінавачанне ва ўтойванні... не, не даходаў, а — не паверыце — двух пераносных зенітных ракетных комплексаў, якія называюцца "Іголка".

Такі незвычайны тавар "падарыў" ваеннаслужачы, які адбывае цяпер пакаранне ў дысцыплінарным батальёне. Комплексы схавалі ў адрыне сямідзесяцігадовай бабулі, якая жыве ў Шчучынскім раёне і не падазрае аб наяўнасці ў гаспадарцы такой магутнай зброі.

#### ПРАСІЛІ КАНАПУ, АТРЫМАЛІ... НАРЫ

Паслуга, аказаная аператыўнікамі Заводскага аддзела сталіцы рабочаму арцелі "Залацінка" аб"яднання "Якутзолата", не самая лепшая. На вуліцы Ангарскай небараку арыштавалі. За што? Напярэдадні з непрацуючым сябрам па тэлефоне вымагалі ў прыватнага прадпрымальніка... набор мяккай мэблі. Міліцыя прапанавала ўзамен тое, што ёсць у наяўнасці, — нары.

#### СТУДЭНТ–РАЗБОЙНІК

У Беразіно ўчынены разбойны напад на кватэру інжынера аграпрамтэхнікі. Злачынцы, звязаўшы дачку-студэнтку гаспадара, завалодалі відэаапаратурай, камп"ютэрам для гульняў, каштоўнымі рэчамі і зніклі. На радасць пацярпеўшых, поспехам увянчаліся аператыўна-пошукавыя мерапрыемствы мясцовай міліцыі.

Грабежнікаў-налётчыкаў арыштавалі. Калі сарвалі маскі з твараў удзельнікаў разбою, пад адной з іх быў студэнт... Акадэміі фізічнага выхавання і спорту.

*БЕЛІНФАРМ.*

### *Не паспелі падпісацца на "Мінскую праўду"?*

**Не хвалюйцеся — падпіска на яе прадоўжана да 20 снежня**

***Калі вы не хочаце застацца без вернага сябра і дарадчыка, то зайдзіце на пошту і выпішыце "Мінскую праўду". Падпісная цана на 6 месяцаў — 7.200, на тры — 3.600, на адзін месяц — 1.200 рублёў. Індэкс газеты — 63923.***

**"Мінская праўда" — газета для вас і пра вас**

## Кто такие чеченцы и за что они воюют?




* Граница между Ингушетией и Чечней точно не определена

Кто такие чеченцы? Это — древний кавказский народ с устоявшимися родственными (тейповыми) отношениями. Строго говоря, тейп даже нечто большее, чем чисто родственные отношения, он сохраняет черты этнокультурной самостоятельности. Взаимоотношения между тейпами строятся на паритетных началах кровной мести. Со времен гражданской войны в России многие чеченские тейпы по-прежнему формально находятся в состоянии кровной мести.

Современная территория Чечни приблизительно соответствует историческому расселению чеченских тейпов. С севера Чечня граничит со Ставропольским краем, от которого в свое время к Чечне отошли Наурский и Шелковский районы. Сегодня казачество выдвигает требование признать суверенитет Чеченской республики в обмен на эти два района.

С запада к Чечне примыкает родственная Ингушетия, которая сохраняет свои претензии на Пригородный район Северной Осетии. На юге и востоке соседом Чечни является Дагестан. Проживают на границе Чечни и Дагестана (с той и другой стороны) преимущественно чеченцы и близкие к ним аварцы, готовые в любой момент поддержать "братьев".

За свою историю чеченцы трижды воевали с Россией: в 1785 году — под предводительством Ушурмы; в 1817 — 59 — под руководством Шамиля; а в 1919 — против Деникина.

До 1990 года в Чечено-Ингушской АССР жило около 2,5 миллиона человек, из них приблизительно 450 тысяч русских. После "развода" с Ингушетией и периода "насильственного" суверенитета цифры эти разнятся. Общее число жителей Чечни, по различным данным, колеблется сегодня от 1,2 до 1,5 миллиона, а число русских — от 150 до 200 тысяч.

Чеченская республика без преувеличения занимает одну из ключевых геостратегических позиций на Кавказе. Через Чечню проходят "жизненные артерии Кавказа" — железная дорога и автотрасса Ростов — Баку. Кроме того, Грозный является своеобразной задвижкой на нефтепроводе Баку — Новороссийск. Этот нефтепровод, пожалуй, главный козырь России в борьбе с Турцией за право транспортировки каспийской нефти.

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

# У "Клопат" — па клопат

## ідуць старыя ды малыя, у якіх доля, нібы палын, горкая...

**Ну што сёння можа прыдумаць улада, каб умомант зрабіць шчаслівымі бедных і нямоглых? Каб аднойчы і назаўсёды —то, вядома, нічога. Тым больш — мясцовая. Сама падчас калі і не нямоглая, дык збяднелая — гэта ўжо дакладна. А вось упрыгожыць хоць бы дзень, тыдзень, месяц тым, хто найбольш пакутуе ад складанасцей жыцця, — справа, аказваецца, упаўне рэальная.**

**Менавіта з гэтай мэтай улады Мінскага раёна прыдумалі нешта такое, чаго, бадай, у ніводным раёне вобласці пакуль няма. Гэтае "нешта" — раённы фонд сацыяльнай абароны малазабяспечаных грамадзян "Клопат". А начальствуе ў ім намеснік старшыні райвыканкома І.І.ЗІНОВІЧ.**

— Уявіце сабе: на нашай тэрыторыі пражывае 26 тысяч пенсіянераў, — паведаміў на пачатку размовы Ігар Іосіфавіч. — Ледзь ці не колькасць насельніцтва невялікага раёна! Акрамя таго, у нас 2 тысячы ўдзельнікаў вайны, 700 сем"яў загінуўшых воінаў, 563 інваліды вайны, 300 адзінокіх старых і столькі ж — дзяцей-сірот. Наколькі бедныя сёння гэтыя людзі, думаю, расказваць нікому не трэба. Бясконцай чарадою ідуць яны ў райвыканком: маўляў, дом развальваецца, палячыцца няма за што, няма ў што апрануцца. А што мы можам? Ну, скажам, аказаць матэрыяльную дапамогу — як правіла, у памеры мінімальнай зарплаты ці нават пяцьдзесят працэнтаў ад яе. За такія грошы, зразумела, рамонт ніхто не зробіць. Абдумаўшы гэта, я і звярнуўся на сесіі райсавета да дэпутатаў: давайце, маўляў, створым структуру, якая будзе акумуліраваць сродкі для дапамогі збяднелым людзям. Падтрымалі! Вось тады мы і сфарміравалі савет фонду, куды ўвайшлі прадстаўнікі ад савета ветэранаў, таварыства інвалідаў, райкома Чырвонага Крыжа, раённага жансавета... Словам, людзі, якія па роду сваёй службы сустракаюцца з найбольш абяздоленымі, ведаюць іх беды і праблемы. Разам з юрыстамі распрацавалі статут. І, зразумела, пачалі шукаць спонсараў, дабрачынцаў...

"Дзіцяці" пад назвай "Фонд "Клопат" крыху больш чым паўгода. Але на яго рахунку — дзеянні ўпаўне паважныя. Дзякуючы яму 127 жыхароў раёна атрымалі матэрыяльную дапамогу. Прычым зусім не сімвалічную! Дзевятнаццаць мільёнаў рублёў "адпусціў" на гэта фондаўскі савет. Пятнаццаць дзяцей-сірот пабывалі летам у лагерах адпачынку. Хтосьці са збяднелых прасіцеляў за атрыманыя грошы нарыхтаваў на зіму агародніну, хтосьці адрамантаваў дом. Хтосьці набыў жыўнасць у выглядзе казы ці нават каровы. І здзіўляцца тут няма чаго: ад 50-ці да 250 тысяч рублёў трапляе ў рукі тых, хто звяртаецца ў фонд з заявамі. Да якіх, дарэчы, арганізатары "Клопата" ставяцца вельмі ўважліва. А дапамагаюць ім у гэтым сельскія ўлады: на месцы заўсёды лепш відаць, каму і які рубель патрэбен у першую чаргу...

Адкуль у фондзе бяруцца грошы, па раённых мерках, пагадзіцеся, упаўне прыстойныя?

— Гэта ў першую чаргу пералічэнні ад акцыянерных таварыстваў, малых прадпрыемстваў, прыватных прадпрымальнікаў, а таксама сродкі з раённага бюджэту, — тлумачыць І.І.Зіновіч. — Вось літаральна тыдзень-другі назад мы праводзілі свята для састарэлых людзей. Запрасілі да сябе каля сотні бабуль і дзядуляў з найцікавейшымі лёсамі, многія з якіх засталіся на свеце зусім адны. Каб вы ведалі, колькі кранальных і разам з тым жорсткіх гісторый прагучала ў той вечар за чатыры гадзіны!.. Багата чаго было на сталах. Безумоўна, конкурсы арганізавалі, танцы... Да ўсяго, за кошт сродкаў фонду нашы госці атрымалі салідны "харчовы паёк": алей, маянэз, гарошак, тушонка, цукар, гарбата і... дзве каробкі цукерак! І гэта яшчэ не ўсё. Кожная з жанчын атрымала зімовае паліто, не пакрыўдзілі прадстаўнікоў "моцнай палавіны"... Дапамагло нам у гэтым акцыянернае таварыства "Гандальадзенне" на чале з яго дырэктарам Г.В.Шарапам.

Дарэчы, гэта не першая спроба такім вось чынам упрыгожыць для "беднай большасці" не надта прыгожае жыццё. Некалькі месяцаў назад "сонечны праменьчык" у выглядзе свята трапіў і ў мнагадзетныя сем"і. Вядома, дзякуючы "Клопату". Каму яшчэ пашанцуе ў бліжэйшым будучым?

— Трэба падтрымаць інвалідаў з дзяцінства. Іх амаль чатыры сотні! — падзяліўся на канец размовы планамі старшыня фонду І.Зіновіч. — Маем намер сабраць іх разам, зрабіць для іх свята. Калі, зразумела, у новым годзе не перавядуцца людзі, у якіх ёсць грошы ды сэрца чулае.

Пакуль яшчэ хочацца ў гэта верыць...

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

# Новае — добра забытае старое

У ГАДЫ перабудовы работнікі "Беларускалія" першымі ў Салігорску заявілі праваахоўным органам:

— Паведамленні аб правапарушэннях з боку нашых людзей не прысылайце, рэагаваць на іх адмаўляемся. Мы будзем выбрацяць угнаенні, а з парушальнікамі дысцыпліны, грамадскага парадку няхай змагаецца міліцыя.

Як і ў многіх іншых месцах, у аб'яднанні ліквідавалі розныя грамадскія камісіі па барацьбе з негатыўнымі з'явамі, таварыскія суды. І вось вынікі. Калі ў 1991 годзе ў п'яным стане было затрымана 256 калійшчыкаў, то на наступны год — 438, а летась — 541. З пачатку сёлетняга года зафіксавана больш за 600 п'яных шахцёраў, абагачальнікаў... За гэты час яны ўчынілі больш як паўтысячы дробных хуліганстваў, амаль столькі ж разоў наведалі медвыцвярэзнік. Зразумела, актывізацыя п'янства адбілася і на вытворчай дысцыпліне, прадукцыйнасці працы. Да таго ж, зафіксаваны дзесяткі крадзяжоў на прадпрыемствах, асабліва — каляровых металаў.

Усё гэта вымусіла кіраўніцтва "Беларускалія" распрацаваць і прыняць меры па ўмацаванню працоўнай, выканаўчай дысцыпліны, барацьбе з п'янствам, узмацненню выхаваўчай работы ў калектыве. У цэхах зноў будуць выбраны таварыскія суды. Ствараюцца камісіі, задача адных — правяраць выкананне распарадку рабочага дня, другіх — змагацца з п'янствам.

— Мы пастараемся навесці парадак на прадпрыемствах сваімі сіламі, — гаворыць намеснік генеральнага дырэктара "Беларускалія" па кадрах Т.М.Сцятая. — Але наша пазіцыя ў адносінах да праваахоўных органаў застаецца ранейшая: ніякія меры матэрыяльнага пакарання да тых, каго яны затрымліваюць, мы прымаць не будзем. Бо гэта не прадугледжана заканадаўствам Беларусі.

Застаецца толькі пажадаць калійшчыкам поспехаў у іх добрым імкненні. Праўда, вельмі сумніцельна, што таварыскія суды справяцца з масавым крадзяжом каляровых металаў, тут і праваахоўныя органы нярэдка заходзяць у тупік. Вельмі ўжо многа плацяць за тую ж медзь пакупнікі і занадта мяккае пакаранне прадугледжвае закон для злодзея, калі яго схопяць за руку.

У час рабочага візіту ў Салігорск Прэзідэнт Беларусі А.Р.Лукашэнка заявіў: трэба ўзмацніць меру пакарання за крадзеж каляровых металаў і манапольнае права на закуп іх даць толькі дзяржаўным арганізацыям. Амаль штодзённыя звесткі аб крадзяжы кабеляў, медных дэталей з прамысловых пляцовак "Беларускалія" гавораць аб тым, што гэтыя эфектыўныя меры барацьбы са зладзеямі яшчэ не прыняты.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Фотарэпартаж




# ОТ "LEGO" ВСЕГО МНОГО

*«Мальчишки и девчонки,*
*а также их родители, огромный замок LEGO*
*построить не хотите ли?"*

Этот веселый текст написан на пригласительных билетах, которые смогли получить все желающие в кассе Русского драматического театра. В течение четырех дней дети имели возможность поиграть в театральном зале с конструкторами. Ведь организатор праздника — датская фирма «LEGO» — один из крупнейших производителей игрушек в мире.

Пока одни ребята занимались конструкторами, другие возводили на сцене театра из кубиков «LEGO» средневековый замок.

7 декабря театр был открыт для воспитанников детских домов, школ-интернатов, ребят, пострадавших от чернобыльской аварии. Каждый из них получил подарок от фирмы «LEGO».

**На снимках:** во время праздника.

*Фото Анатолия БАСОВА.*




■ Здарэнні

# За "хвілінку" да бяды

## З-за бестурботнасці пры карыстанні газам гінуць дзеці

***Колькі ўжо можна гаварыць, што з газам жартаваць нельга. Што нельга праяўляць самадзейнасць пры эксплуатацыі газавага абсталявання, самавольна падключацца да яго. Людзі ахвотна пагаджаюцца з гэтым і часта ўсё робяць наадварот. А расплата не прымушае сябе доўга чакаць.***

У гэтым змог пераканацца жыхар вёскі Дубравы Маладзечанскага раёна. Набыў ён у кагосьці балон і вырашыў сам падключыць яго. Ды адбылася ўцечка газу, ён успыхнуў. У выніку два чалавекі атрымалі апёкі, а дамашняя маёмасць згарэла.

У вёсцы Хацюхова Крупскага раёна людзі панеслі больш вялікія страты. Яны таксама звязаны з пажарам, які ўзнік пры замене пабочнай асобай (а не спецыялістам) балона — тут згарэў двухкватэрны дом з усёй абстаноўкай. Тое ж самае адбылося і ў вёсцы Дзягілі Мядзельскага раёна.

Асаблівай трагічнасцю сярод усіх здарэнняў вылучаецца выпадак у вёсцы Бруская̆шчына Маладзечанскага раёна, які здарыўся ў канцы лістапада.

Жанчыне трэба было адлучыцца з дому на хвілінку. Яна закрыла траіх дзяцей ва ўзросце ад трох да шасці гадоў і пайшла па сваіх справах, пакінуўшы без нагляду газавую пліту, на якой гатавалася ежа. Яе "хвілінка" зацягнулася настолькі, што ў памяшканні ўзнік пажар — згарэў дом і дзеці. Вось якой страшнай трагедыяй абярнулася бестурботнасць маці.

Так што яшчэ раз хочацца напомніць усім — захоўвайце ўсе правілы і інструкцыі пры карыстанні газам. Тыя, хто хоча самастойна мяняць балоны, няхай звернуцца ў гаррайгаз з заявай, і там для іх арганізуюць спецыяльныя кароткатэрміновыя курсы навучання.

Газавае абсталяванне, як і любая бытавая тэхніка, патрабуе строгага захавання пэўных мер бяспекі пры яго эксплуатацыі. Гэта гарантуе нашым абанентам захаванасць жылля і маёмасці, здароўя і жыцця, пазбаўляе іх ад усялякіх надзвычайных здарэнняў.

*Генадзь БАБКЕВІЧ,*
*інжынер вытворча-тэхнічнага аддзела Мінскаблгаза.*

■ Актуальное интервью

# НА "РАСПУТИН" ДЕНЬГИ ЕСТЬ. НАЙДУТСЯ ЛИ НА ПЕКАРНЮ?

**В Республику Беларусь в поисках взаимовыгодного сотрудничества, обращены взоры сотен зарубежных бизнесменов. Недавно Минск посетил заместитель генерального директора московского представительства фирмы "Вернер и Пфляйдерер" из Германии господин Инго Бауэр. Предлагаем беседу нашего корреспондента с господином Бауэром.**

***— Господин Бауэр, расскажите, пожалуйста, о Вашей фирме и ее интересах в странах СНГ.***

— Фирма "Вернер и Пфляйдерер" имеет более чем столетнюю историю. Возникла она в 1889 году в Штутгарте. И наша сегодняшняя работа в Москве — это продолжение давней традиции плодотворного сотрудничества с Россией. Впервые представительство "Вернер и Пфляйдерер" было открыто в 1895 году в Москве, а потом и в Санкт-Петербурге. Фирма довольно успешно поставляла в Россию хлебопекарное оборудование. Плодотворное сотрудничество продолжалось до 1917 года. В связи с известными событиями представительства были закрыты.

***— И когда возобновились прерванные связи?***

— После перерыва фирма появилась в Москве в 1933 году. Тогда на фабрике "Большевик" нашими специалистами была смонтирована линия. На этом связи снова оборвались, и сотрудничество возобновилось лишь в 1983 году. Линия, смонтированная в 1933 году, безукоризненно отслужила 50 лет, и руководство фабрики решило заменить ее на более совершенную. Так снова фирма "Вернер и Пфляйдерер" появилась в Москве. После установки линии на "Большевике" мы получили заказ на поставку 20 линий крекеров, на общую сумму в несколько миллионов марок.

***— Все эти линии будут установлены в Москве?***

— Нет, линии будут смонтированы в нескольких областных центрах России. Причем мы берем на себя обязанность не только поставить, смонтировать и наладить работу, но и проводить сервисное обслуживание. В течение года ремонт и замену оборудования осуществляем бесплатно.

***— А что вы можете предложить Беларуси?***

— Набор и комплектацию оборудования выбирает сам клиент. Мы можем поставлять пекарни производительностью от 100 килограммов хлеба или булочек в смену до нескольких тонн. Смонтировать мини-пекарню можно в комнате площадью 15—20 метров.

***— А в какую сумму обойдется клиенту пекарня производительностью, скажем, 500 килограммов хлеба в смену?***

— Все зависит от комплектации. Но в среднем, учитывая поставку тестомесов и емкостей для муки, это обойдется в 40—70 тысяч марок.

***— Дороговато. Нельзя ли приобрести оборудование в рассрочку?***

— Когда мы поставляли России линии крекеров, мы согласились на такие условия. Но, к сожалению, многие заказчики не рассчитались с нами до сих пор. Теперь осуществляем поставку или по предоплате, или по аккредитиву. На льготы мы идем только в отношении тех клиентов, кто уже покупал наше оборудование и теперь решил расширить производство. Но, я считаю, приобретать наше оборудование выгодно. В условиях России оно окупается в течение 6—7 месяцев. Заниматься ремесленным хлебопечением в Германии — также дело выгодное. Там это семейная профессия. Занимаются ею люди особога склада характера и образа жизни. Например, рабочий день у них начинается обычно в три часа утра. И к 6—7 часам свежий хлеб или булочки уже готовы.

***— Вы предполагаете успешное сотрудничество с Беларусью?***

— У вас в основном обеспечивают население хлебом и булочками большие заводы с устаревшим, износившимся оборудованием, ограниченным ассортиментом. Наши пекарни позволяют гибко реагировать на покупательский спрос и могут обеспечить большое разнообразие ассортимента. На сегодня интерес к нашему оборудованию проявили 16 белорусских предприятий и частных предпринимателей. Среди них такое крупное предприятие, как "Беларускалий". Есть заявки из Витебска, Верхнедвинска, Каменца, Молодечно. Пока мы не имеем своего представительства в Минске, наши интересы в Беларуси представляет фирма "Виналь". Но я надеюсь, что с Беларусью у нас установятся прочные партнерские взаимоотношения.

***— Благодарю Вас, господин Бауэр, за беседу и желаю успеха на белорусской земле.***

*Павел ВОРОБЬЕВ.*

## Сапсан — птушка непатрабавальная

"Сапсан-1000" і "Сапсан-1500" — менавіта так, запазычыўшы назву непатрабавальнай птушкі сапсан, якая жыве ў пустыні, вырашана назваць распрацоўваемыя мадэлі самалётаў, што ідуць на змену вядомым у свой час АН-2, АН-28, Л-410.

Але гэта справа будучыні, а пакуль жа спецыялісты аршанскага авіярамонтнага прадпрыемства "Палёт" па заказу Міністэрства прамысловасці завяршаюць навукова-даследчае асэнсаванне мэтазгоднасці і магчымасці разгортвання вытворчасці самалётаў авіяцыі агульнага прызначэння ў нашай рэспубліцы. Яны прыйшлі да станоўчага заключэння. Ёсць сэнс працягваць рэалізацыю выпрацаванай сумесна з расійскімі ведамствамі праграмы па стварэнню гэтага класа самалётаў для пасажырскіх авіяперавозак і сельскагаспадарчых работ. Па-першае, у вытворчасці новай тэхнікі можа быць задзейнічаны шэраг беларускіх прадпрыемстваў, што асабліва важна сёння, па-другое, для яе намячаецца шырокі рынак збыту, як у СНД, так і за яе межамі.

Аўтары перспектыўных ідэй ужо могуць паведаміць, што "Сапсан-1000" разлічаны на перавозку 10—12, "Сапсан-1500" — 14—15 пасажыраў. Яны павінны быць значна больш эканамічныя, чым іх папярэднікі, — разлічаны на выкарыстанне больш таннага і менш таксічнага паліва, паколькі будуць аснашчаны турбавінтавымі і турбарэактыўнымі рухавікамі.

*БЕЛІНФАРМ.*

Людзі ці нелюдзі?

# Кашмар на вясковай вуліцы

**Ну вось і ўсё. Да выратавальнай, на яго думку, сцірты ячнай саломы заставалася некалькі крокаў. Жыхар вёскі Цепленъ Мікалай Батура, прайшоўшы гэтую адлегласць, спыніўся. Доўга і ўважліва пачаў азірацца, нібы той зацкаваны воўк, з усіх бакоў абкладзены чырвонымі флажкамі і паляўнічымі. Усё аблічча гэтага чалавека нібы жыло страхам. Навокал нікога не было. Толькі там, дзесьці ўдалечыні, хістаў вяршыні сонных ялін свавольнік вецер, хіліў няўмольнай сілай долу каласкі нізкарослага ячменю.**

ЧАЛАВЕК выпрастаўся на ўвесь свой рост, яшчэ раз акінуў поглядам наваколле і рашуча накіраваўся да канчатковай мэты свайго падарожжа. Ячная сціртa вабіла да сябе. Спрактыкаваным вокам дзяцюк амаль з геаметрычнай дакладнасцю вызначыў яе сярэдзіну. Салома, якая яшчэ не згубіла свой першапачатковы залацісты колер, ляжала шчыльна. Батуру гэтая акалічнасць асабліва не палохала. Вялізныя бярэмы саломы, здавалася, так і вылятaлі з ягоных рук. Штучная, вырытая чалавекам нара станавілася ўсё большай і большай.

М.Батура, які для сваіх гадоў валодаў ледзь ці не д'ябальскай фізічнай сілай, адкінуў яшчэ некалькі ахапкаў саломы, зноў паспешліва азірнуўся. Нікога. Падышоў да павозкі. Ужо немалады конь насцярожана касавурыў вокам на свайго гаспадара. Супакоіўшы яго, мужчына нетаропкім, выверaным рухам скінуў на зямлю адну драбіну, другую, моцна і ў той жа час асцярожна, каб не парэзаць сабе рукі, пацягнуў на сябе шпагат. Груз, да якога ён быў прывязаны, глуха ўпаў на ржышча. Так у вёсцы могуць скідваць толькі самую непатрэбную ў дамашняй гаспадарцы рэч. Свой груз Батура хаваў акуратна. Нару, у якую ён зацягнуў яго, зноў заклаў саломай, нават выхад прыцярушыў. Усё. Здаецца, нічога не заўважыць...

СЯМ'Я М.А.Батуры лічылася ў вёсцы вялікай. Ягоная жонка нарадзіла за час сумеснага пражывання пяцярых дзяцей. Двое з іх памерлі ў раннім узросце. Вось чаму маці ўсю цеплыню і пяшчоту, як магла, аддавала астатнім. Трэба заўважыць, што ніхто з іх не расчараваў бацькоў. У Цеплені дзяцей Батуры паважалі. Суседзі не маглі сказаць пра іх дрэннага слова. І ў гэты вось каторы ўжо раз пастукала бяда. Пасля непрацяглай хваробы памерла гаспадыня.

Віктар, адзін з сыноў Батуры, тэрміновую вайсковую службу праходзіў у Групе савецкіх войск, якая дыслацыравалася на тэрыторыі Германіі. Усе цяжкасці вайсковай службы, як і сотні іншых яго равеснікаў, вытрымаў з гонарам. Аб гэтым сведчылі розныя нагрудныя знакі і ганаровыя граматы, якія ён пасля прывязе дадому. Перад звальненнем Віктар праявіў сялянскую разважлівасць. Усю "салдацкую валюту", так жартаўліва яны назвалі сваё месячнае жалаванне, якое выдавалася радавому і афіцэрскаму саставу ў нямецкіх марках, пусціў на падарункі родным і блізкім.

Вярнуўся дамоў Віктар у снежні 1991 года. Жыць пачаў разам з бацькам, разважліва прыкінуўшы, што аднаму старому цягнуць усю дамашнюю гаспадарку крыху цяжкавата. А працаваць па прапанове старэйшага брата Сяргея пайшоў на будоўлю — адно з месц, дзе існаваў больш-менш людскі заробак.

Старэйшаму Батуру ў рэшце рэшт абрыдла жыць без спадарожніцы, і аднойчы ён прывёў у хату ўжо немаладую жанчыну. Дзеці, магчыма, не адабралі бацькаў выбар (наваяўленая мачаха занадта шпарка пачала браць уладу ў свае рукі), аднак лічылі за лепшае прамаўчаць.

МАЛАДАЖОНЫ, якія так і не зарэгістравалі свае адносіны афіцыйна, весяліліся. Сатанелі, наліваліся крывёю ад выпітай гарэлкі вочы "закаханых", а асіплыя глоткі заводзілі на ўсю ваколіцу дзікія "сабачыя галасы". Замест дабрыні сеялі ў адносінах з роднымі толькі атруту, горкія кроплі якой даставаліся дзецям. Асабліва стараўся сам "малады". Зло, нянавісць да родных сыноў напластоўваліся ў яго душы.

Да ўзрыву заставалася зусім нямнога. Патрэбен быў толькі дэтанатар. І ён знайшоўся. Ім стала сужыцелька С.Сырба, яе паводзіны і празмерныя патрабаванні.

Аднойчы, калі на пахмелле ўжо не хапала ўласных грошай, яна вырашыла "пазычыць" іх у сына Батуры. Віктар хутка заўважыў прапажу аднаго з касцюмаў і адразу здагадаўся, адкуль падзьмуў, як кажуць, нядобры вецер. Спакойна прапанаваў мачасе вярнуць касцюм на месца добраахвотна. Толькі тая адмовілася. Умяшанне ўчастковага міліцыянера дазволіла расставіць у гэтай пераднаявальнічнай гісторыі ўсе кропкі над "і".

А што ж бацька? Яго лічылі ў вёсцы мясцовым знахарам. Многія з вяскоўцаў, а часам і зусім незнаёмыя людзі пасля наведвання дома Батуры, пасля яго так званых сеансаў адчувалі сябе значна лепш. Але была ў яго і іншая слава. Вока ў Батуры, як кажуць, лічылася нядобрым. Калі сказаў камусьці з аднавяскоўцаў, што яго карова здохне, то так нярэдка і было.

Вось і ў сітуацыі з крадзяжом асабістых рэчаў Віктара бацька добраахвотна ўзяў на сябе функцыі сучаснага шамана, які сам вырашаў, каго выбіраць у ахвяру, каго мілаваць. Не раз і раней палохаў ён сыноў усялякімі пакараннямі. На што хлопцы адказвалі: "Толькі паспрабуй, адразу ж адкажаш па закону". Падобнае працягвалася не адзін дзень. Магчыма, і Віктар неўпрыкмет для сябе прывык да нападкаў бацькі. На жаль, гэта і стала для яго трагічнай памылкай у жыцці.

У ТОЙ ДЗЕНЬ Віктар з работы вярнуўся як звычайна. Хуценька павячэраў, паглядзеў крыху тэлевізар і, стомлены, лёг спаць. Прачнуцца лёс яму ўжо не даў. Для азвярэлага бацькі сон Віктара быў зручным выпадкам спраўдзіць чорныя задумы. Імгненна ўзляцеў у паветра кавалак металічнай трубы, урэзаўся ў падатлівае чалавечае цела...

Ягонае дзіця змоўкла навекі.

Завалокшы нерухомае цела сына ў сцірту саломы, бацька і далей не ведаў літасці. Гэта ўжо была пачвара. Пачвара, якая спакойна вярнулася дадому — размаўляць з суседзямі, спаць. Назаўтра яна зноў вернецца да сцірты. У кішэні будуць ляжаць запалкі. Сцірта ўспыхне. Полымя ахопіць цела чалавека, які пражыў крыху больш двух дзесяткаў гадоў.

Чорны дым слаўся па наваколлі не адзін дзень. Нежывы Віктар нібы яшчэ спрабаваў змагацца з нелюдзем...

Першымі забілі трывогу родныя Віктара. Жонка ягонага старэйшага брата сэрцам адчувала штосьці нядобрае. Віктар знік, як скрозь зямлю праваліўся. На ўсе пытанні наконт яго адсутнасці свёкар адказваў па-рознаму: пайшоў на будоўлю, дома не начаваў і г.д.

Меркаванні родных, іх здагадкі наконт знікнення Віктара хутка пачалі пацвярджацца страшнымі фактамі. У доме М.А.Батуры кідаліся ў вочы бурыя плямы, аб чым было паведамлена ў мясцовы РАУС. Міліцыя адрэагавала на гэтае паведамленне марудна. Нявестка ж Батуры біла трывогу, звярталася ў розныя інстанцыі. Адной з іх стала раённая пракуратура. Паступова пачаў вырысоўвацца агульны малюнак.

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на спакойныя паводзіны М.А.Батуры ў перыяд расследавання (вырадак нават умудраўся пяшчотна гуляць са сваімі ўнукамі), усё пачынала гаварыць не на яго карысць. "Так, гэта я забіў яго!" — рэзка выкрыкнуў ён у час аднаго з допытаў.

На судзе забойца спрабаваў выкруціцца, адмаўляў усё сказанае ім раней, выказваў розныя папрокі ў адрас следчых. Не выйшла. Уздзенскім народным судом ён быў прыгавораны да дзесяці гадоў турэмнага зняволення. Абласны суд, куды злачынца падаў апеляцыйную скаргу, пакінуў яго без змянення.

Магчыма, хтосьці з чытачоў палічыць дзесяць гадоў турэмнага зняволення занадта мяккім пакараннем. Маўляў, няма чаго такіх шкадаваць. Усё ж не будзем занадта строгімі. Няхай жыве вырадак і да апошніх дзён сваіх ведае, што ён — забойца роднага сына.

*Валерый АНДРОСІК,*
*следчы Уздзенскай раённай пракуратуры.*
*Андрэй КАПСКІ,*
*супрацоўнік райгазеты "Чырвоная зорка".*

■ Дыскусійная трыбуна

## І.І.Плаўскі: КАБ НЕ ПАВАЛІЎСЯ «СТРЫНОЖАНЫ КОНЬ»

**Канцэпцыя развіцця вёскі, якая публікавалася на старонках "Мінскай праўды", зацікавіла многіх гаспадарнікаў. Сёння сваімі думкамі аб гэтым дакуменце дзеліцца дырэктар племзавода "Чырвоная зорка" Клецкага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы Іосіф Іосіфавіч ПЛАЎСКІ.**

— Мне здаецца, што такія вопытныя людзі, знаўцы праблем сельскагаспадарчай вытворчасці, як І.Галко, А.Юнцэвіч, У.Лысы, М.Рубель, прапануючы сваю Канцэпцыю развіцця вёскі, паказалі найбольш рэальны выхад з сённяшняга складанага становішча. Я цалкам згодзен з імі: не трэба займацца вынаходніцтвам веласіпеда. Няхай самі вяскоўцы вызначаць, як ім жыць, якой дарогай ісці далей.

Разбурыць калгасы? Але ж яны шліфаваліся дзесяцігоддзямі, і не ўсё ў іх так дрэнна, як думаюць многія гарачыя галовы. Сёння б мы, магчыма, галадалі, не мелі хлеба нават па картках, каб раскідалі зямлю і тэхніку налева і направа.

Возьмем нашу гаспадарку. Я з гонарам магу сказаць, што яна дае такую аддачу, якой іншы наш наваспечаны фермер наўрад ці даб"ецца ў бліжэйшыя гады. Сёлета пры страшэннай засусе мы атрымалі па 46,2 цэнтнера з гектара збожжа, па 178 — бульбы, па 453 — караняплодаў, па 224 цэнтнеры цукровых буракоў. І гэта пры тым, што літаральна душаць земляроба высокія цэны на тэхніку, "мінералку", будматэрыялы...

Каб не спустошыць зямлю, павялічваем вытворчасць арганічных угнаенняў (ствараем сваё возера і тарфакрошку пусцім на фермы). Знайшлі сродкі (хаця яны ў нас не лішнія), набылі некалькі трактароў МТЗ-80, сянажны камбайн "Палессе".

Зямля — не разменная манета. За яе трэба трымацца нам усім. Таму правільна падкрэсліваецца ў Канцэпцыі, што купля-продаж зямлі не прынясуць рэспубліцы карысці. Яе будуць набываць наваяўленыя буржуа, а простаму народу давядзецца гнуць на іх спіну.

З гісторыі ведаем, колькі разоў царскі ўрад Расіі спрабаваў вырашыць сялянскае пытанне, не спытаўшы аб гэтым саміх сялян. У выніку ў вёсках панавала галеча, хаця памешчыкі нажываліся.

***— Іосіф Іосіфавіч, вы ў свой час доўга працавалі старшынёй калгаса. Усю яго "кухню" добра ведаеце. Як лічыце, трэба пакінуць гэтую форму гаспадарання без рэфармавання ці варта нешта змяніць?***

— Я адкажу вам словамі таго ж Антона Юнцэвіча з публікацыі ў "Мінскай праўдзе": "Калгасы знойдуць сабе дарогу самі, і не абдзіраць іх трэба, а дапамагаць, каб яны ўмацоўваліся". Нездарма амерыканцы дзівяцца з Юнцэвіча: як жыве калгас без фінансавай падтрымкі? Ім у Амерыцы незразумела гэта. Дарэчы, я таксама пабываў у ЗША, знаёміўся з работай вялікіх і малых ферм. Скажу прама: там 75—80 працэнтаў прадукцыі даюць буйныя фермерскія гаспадаркі. І самі амерыканцы, іх урад і думкі не дапускаюць пра драбленне гэтых ферм, іх угоддзяў. Наадварот, перспектыву бачаць у канцэнтрацыі і глыбокай спецыялізацыі вытворчасці на аснове навейшай тэхнікі і камп"ютэрызацыі. Дык чаму ж драбленне ўгоддзяў нашых калгасаў і саўгасаў, "расцяганне па дварах" іх асноўных сродкаў сяму-таму здаецца выратавальным шляхам для Беларусі? Гэта ж вяртанне назад, да коннага плуга, прымітыўнай бараны і самых адсталых тэхналогій у земляробстве. Дзіўна, што нашы "асфальтныя" знаўцы вёскі менавіта на гэтым шляху бачаць выратаванне ўсяго АПК рэспублікі.

Разважаючы далей, хачу падкрэсліць, што ў адрозненне ад нас фермер там не б"ецца як рыба аб лёд у пошуках нейкай машыны, вузла ці дэталі. Там яму даставяць у тэрмін канцэнтраты, лекі для жывёлы, абсталяванне... Мы ж такога абслугоўвання і блізка не маем. Дзікі рынак зрабіў з яго нешта незразумелае. Урад заклапочаны іншымі праблемамі. А менавіта на неабходнасць стварэння даступнага, высокаэфектыўнага аграрнага сервісу ўказваюць аўтары Канцэпцыі як на адзін з фактараў выхаду з крызісу.

***— Як працуюць амерыканскія фермеры?***

— Скажу шчыра: працуюць з поўнай аддачай сіл. Я спытаў у аднаго: "Чаму не наймаеш рабочых?" Ён толькі ўсміхнуўся: "Гэта — дадатковыя расходы. Нявыгадна". І сам з жонкай і двума сынамі дзень і ноч "укалвае".

***— Пра нашых вяскоўцаў гэтага, мусіць, не скажаш? Прывыклі, што за іх думае старшыня калгаса, дырэктар саўгаса.***

— Людзі нашай вёскі ў большасці сваёй — не абібокі. Працуюць на грамадскіх палетках і фермах не горш, чым амерыканскія фермеры на сваіх уласных. А які аб"ём работы выконваюць на сваіх падворках! І не яны вінаватыя, што сёння іх заробкі самыя нізкія ў нашым грамадстве. А адсюль усе нашы беды. Але даць магчымасць вёсцы зарабляць — гэта, відаць, не ўкладваецца ў планы некаторых палітыкаў.

Пад уплывам такога становішча ўжо развіваюцца трывожныя працэсы. Мяне хвалюе, што цэлае пакаленне вяскоўцаў можа быць "выбіта з сядла". Ужо швэндаецца нямала такіх, хто мерае дэмакратыю на свой капыл, каму даспадобы разбурэнне, хаос, анархія. І вясковыя хлопцы, дзяўчаты з зайздрасцю глядзяць, як іх аднагодкі з гарадоў шыкуюць на дарагіх машынах, жывуць багата і бясклапотна. Дык у каго не з"явіцца жаданне "пераняць вопыт"? Тады мы страцім рабочы патэнцыял вёскі, падсячом сук, на якім яшчэ сяк-так сядзім.

Таму я глыбока перакананы, што без цвёрдай дысцыпліны і парадку ў працоўных калектывах наўрад ці "ажыве" эканоміка. Аб гэтым сведчыць вопыт і заходніх краін.

***— Трэба зарабляць грошы... На гэтых словах хацелася б засяродзіць вашу ўвагу. Племзавод жыве. Ці лёгка сёння яму даюцца грошы?***

— Крыніцы, адкуль чэрпаем іх, абмежаваныя. Прадалі дзяржаве 1.500 тон збожжа (замест запланаваных 500 тон). Быццам бы нядрэнную капейку атрымалі за здачу 570 тон бульбы. Рэалізавалі 4.670 тон малака, 530 тон мяса. Хаця са спазненнем, але грошы нам выплацілі.

І вось куды яны трацяцца. Уявіце сабе: у нашым пасёлку Янавічы 222 сям"і карыстаюцца прыродным газам. Цэны на яго, як вядома, так "закручаны", што далей ужо няма куды: за суткі работы газавай кацельні толькі ў гэтым пасёлку трэба плаціць 5 мільёнаў 500 тысяч рублёў. Памножце на 200 дзён ацяпляльнага сезона, і вас ахопіць жах...

Таму і аўтары Канцэпцыі, і многія кіраўнікі гаспадарак зусім правільна ставяць пытанне аб тым, каб прадпрыемствы, якія заняты перапрацоўкай сельскагаспадарчай сыравіны, у бліжэйшы час былі акцыяніраваны. Пры тым большую частку іх акцый павінны атрымаць пастаўшчыкі льну, збожжа, малака, мяса, цукровых буракоў і інш., а не дзядзькі "з вуліцы", каб мець прыбытак ад сваёй прадукцыі. Інакш атрымліваецца парадокс: у многіх гаспадарках прадукцыя жывёлагадоўлі стратная, зарплата даяркі, цялятніцы, свінаркі складае 40—80 тысяч, а работніца перапрацоўчага прадпрыемства атрымлівае за 200 тысяч рублёў у месяц. Калі ж узяць дзялкоў у жоўтых портках, якія сядзяць у камерцыйных кіёсках, дык заработкі іх увогуле не параўнаць з зарплатай нашага механізатара ці слесара. А кіраўніку гаспадаркі гавораць: і ты плаці столькі свайму работніку, калі маеш грошы.

***— Дык, можа, на месцы перапрацоўваць сваю сыравіну? Там-сям у калгасах вобласці пайшлі па такім шляху.***

— Думаецца, што гэта часовая мера. Калі кожны калгас, саўгас будзе "біцца" над тым, як набыць дарагое абсталяванне для каўбаснага цэха (яно ж не акупіцца за год-другі), то многія гаспадаркі зусім "сядуць у галёш". А магутнае высокапрадукцыйнае абсталяванне прадпрыемстваў што, адправім на звалку? Ці разумна гэта? Бо, у рэшце рэшт, калі стабілізуецца развіццё народнай гаспадаркі, жыццё нас прымусіць зноў вяртацца да стварэння такіх прадпрыемстваў: прадукцыйнасць працы на іх заўсёды вышэйшая, чым у маленькіх прымітыўных цэхах, глыбейшая перапрацоўка сыравіны.

Увогуле ж я не супраць падсобных цэхаў, але зноў-такі трэба ўсё загадзя прадумаць і ўзважыць. Каб не атрымалася так, як з сянажнымі вежамі. У свой час на іх была мода, пасля шмат дзе паразбуралі.

***— Аўтары Канцэпцыі трымаюць арыенцір на ўмацаванне калектыўных асноў у сельскай гаспадарцы. Бо і сапраўды, індустрыяльныя тэхналогіі патрабуюць вузкай спецыялізацыі работніка, а, значыць, рэалізаваць сябе як спецыяліст ён можа толькі ў калектыве. Прыхільнікі ж фермерства бачаць у гэтым падыходзе і слабыя месцы. Яны сцвярджаюць, што сродкі вытворчасці, якія знаходзяцца ў калектыўным карыстанні, не маюць канкрэтнага гаспадара і на справе аказваюцца як бы нічыйнымі, іх не берагуць, яны не даюць патрэбнай аддачы. Так абгрунтоўваюць неабходнасць скасавання калгасаў. Як вы глядзіце на гэтую праблему?***

— Каб не займацца абстрактнымі тэарэтычнымі разважаннямі, зірнём на нашу жывёлагадоўлю. Тыя поспехі, якіх дабіліся працаўнікі ферм у 70—80-я гады, я перакананы, не былі б дасягнуты, калі б людзі працавалі як аднаасобнікі. Развесці па дварах ці хутарах такі статак кароў, як наш, значыць перакрэсліць усю сістэму селекцыйнай работы, якая карпатліва вялася на працягу доўгіх гадоў. І заслуга тут не толькі заатэхнікаў-селекцыянераў, тэхнікаў-асемянатараў, але і цэлага калектыву даярак, пастухоў, даглядчыкаў маладняку. Нарэшце, працаўнікоў паляводства, ад рупнай працы якіх кожны год залежыць кармавая база.

Так канцэнтруецца ў агульным выніку праца шматлікіх работнікаў гаспадаркі. І не толькі іх. Трэба дадаць і навуковае, ветэрынарнае забеспячэнне ферм.

Ну а калі раздрабніць усю гэтую сістэму, якая адладжвалася дзесяцігоддзямі? Асобныя гаспадары, напэўна, будуць мець высокаўдойных кароў і сяк-так будуць імкнуцца падтрымліваць іх высокі генетычны патэнцыял. Усё ж астатняе зачахне, выродзіцца, прападзе.

Хачу падкрэсліць: значэнне калектыўнай работы разумее кожны наш жывёлавод, кожны механізатар. І, упэўнены, кожны з іх ганарыцца, калі бачыць, як ціхім летнім надвячоркам дагледжаны статак вяртаецца на ферму або калі ранняй вясною да нас прыязджаюць кіраўнікі і спецыялісты з далёкіх і блізкіх гаспадарак, каб набыць для разводу нашу высокапрадукцыйную жывёлу.

Разумею, "асфальтныя" знаўцы вёскі даказваюць усім, што ў калектыве селянін "рассяляніўся", развучыўся працаваць. Я б хацеў запрасіць іх на нашы фермы, палеткі, у майстэрні, і яны самі пераканаліся б, з якой адказнасцю выконваюць нашы людзі кожную даручаную аперацыю. Бо разумеюць: у калектыве працаўнік атрымлівае істотную сацыяльную абарону ў выпадку хваробы ці іншай бяды, заўсёды можа карыстацца тымі льготамі, якія можа сабе дазволіць калектыў. А аднаасобнік аказваецца адзін на адзін з усялякімі клопатамі.

***— Працоўны год на зыходзе. Напэўна, ужо бачацца вынікі работы жывёлаводаў?***

— Сёлета прададзім не менш як 120 племянных цялушак і бычкоў. Пагалоўе кароў не скарацілі. Сярэдні надой за год складзе не менш як 5.000 кілаграмаў. Па-ранейшаму імкнёмся ўдасканальваць селекцыю. З дапамогай камп"ютэра стварылі банк даных па кожнай пародзістай жывёліне. Гэта дапамагае весці дакладны ўлік племянных якасцей маладняку і матачнага пагалоўя.

***— Бачу, вы чыталі ў нашай газеце і інтэрв"ю аўтараў Канцэпцыі — "Не цягне стрыножаны конь".***

— У нашым раёне, мяркую, усе кіраўнікі, спецыялісты сельскай гаспадаркі чыталі гэтыя матэрыялы. Там шмат слушных думак. Хацелася б толькі, каб парламент і ўрад рэспублікі пазнаёміліся з гэтымі публікацыямі і прымалі такія законы і пастановы, ад якіх, як вы кажаце, лягчэй дыхалася б вяскоўцу. Інакш нам не даруюць нашчадкі, калі неабдуманымі рашэннямі загубім сельскую гаспадарку.

*Вёў гутарку Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## З ПУГАЙ НА ЎРОК ЦІ ЗА МЯСНЫ ПРЫЛАВАК?

### Усё часцей і часцей над такой дылемай задумваюцца педагогі агульнаадукацыйных школ

**Сёлета на старонках "Мінскай праўды" надрукаваны мае артыкулы "Няма лепшай хаткі, чым у роднай маткі" (№ 48), "Дзеці, дзеці, дзе вас падзеці?" (74) і іншыя, у якіх узнімаліся праблемы навучання і выхавання падрастаючага пакалення. Чытачы газеты заўважылі публікацыі. Атрымаў нямала пісьмовых водгукаў, тэлефонных званкоў. Прыходзілі наведвальнікі, называлі новыя адрасы злоўжыванняў, падказвалі шляхі выхаду сістэмы адукацыі з тупіка. Усё пачутае я старанна занатоўваў у спецыяльны блакнот. І вось ён "распух" ад фактаў,назіранняў, якія просяцца на старонкі газеты. Не называю аўтараў, бо, як яны прызнаваліся, баяцца помсты. А вось канкрэтныя высновы трэба рабіць усім, бо штосьці не тое робіцца ў нашым школьным "каралеўстве". Аб чым яскрава сведчыць матэрыял, які прапаную ўвазе чытачоў.**

...Між радамі Камароўскага рынку крочыць настаўніца з тоўстым стосам сшыткаў, якія будзе правяраць да позняй ночы. І раптам вачам сваім не верыць: Міша Р. з 11-а класа, якога ўжо другі дзень няма на занятках, прадае мяса:

— Адкуль яно ў цябе? У вашай жа кватэры нават балкона няма, не тое каб хлява для жыўнасці.

— Вырошчваюць свіней, Наталля Уладзіміраўна, недарэкі, а перапрадаюць іх разумнікі. Паставіце на выпускным экзамене здавальняючую адзнаку, па кілаграму кожны дзень буду вам даваць без грошай.

Праз некалькі хвілін тую настаўніцу падабрала «хуткая дапамога». Яна не змагла спакойна перажыць той момант маральнага здзеку над сабой з боку свайго ж выхаванца. Ачуняўшы, рашуча заявіла бацьку:

— Гэты навучальны год у маім жыцці апошні. Пайду на Камароўку мясам гандляваць.

Перакананне такое да жанчыны прыйшло не раптам. Яшчэ некалькі гадоў таму назад педагог з іх школы, як кажуць, з галавой акунуўся ў камароўскі бізнес. Цяпер ездзіць на іншамарках, сваім дзецям пакупляў кватэры ў прэстыжным раёне сталіцы. Прыклад ад падначаленага пераняў намеснік дырэктара школы — паспяхова ўпісаўся ў рады рынку. Пры сустрэчах з былымі сябрамі выхваляецца, што заканчвае будаўніцтва трохпавярховага катэджа.

А што мае настаўніца, якой прапаноўвалі кавалак мяса за незаслужаную адзнаку? Пусты кашалёк. Уявіце, што за кіраўніцтва класам яна атрымлівае 8 тысяч рублёў. А клас — гэта 25—30 індывідуальнасцей, да кожнай патрэбны свой падыход. А калі яго шукаць? Пасля заняткаў не атрымліваецца. Адразу ж пасля званка з памяшкання класа ў літаральным сэнсе выганяюць, бо ён у другую змену здадзены ў арэнду нейкай камерцыйнай арганізацыі.

— Чаго гэтыя педагогі прыбядняюцца? Мы ж ім нават за праверку сшыткаў плацім, — пачуў аднойчы ад аднаго наваспечанага начальніка.

Падумалася тады: з якой планеты зваліўся гэты чыноўнік, што папракае нават такой мізэрнай падачкай? Яна ж да болю ў сэрцы смешная, калі не сказаць больш — пагардлівая ў адносінах да педагога. Дакажу гэта канкрэтным прыкладам. Грошай, якія настаўніку налічаць за сорак правераных сшыткаў, не хапае нават на тое, каб ён змог купіць усяго адно яйка. Плакаць хочацца ад такой даплаты. А што настаўнік можа купіць за тыя восем тысяч, калі за білет на прэстыжны канцэрт трэба выкласці ўтрая больш.

СТОМЛЕНАЕ за дзень сонца павольна скочвалася за верхавіны дрэў. Інеса Антонаўна, забраўшы з дзіцячага садзіка сыночка, крочыла дамоў. Раптам яе даганяе вучань з іх школы і паведамляе, што тэрмінова трэба з"явіцца да дырэктара школы. Пакінуўшы хлопчыка ў суседзяў, пабегла:

— Развалілі клас, а цяпер мне чырванеЙ перад работнікамі аддзела адукацыі райвыканкома, калегамі з іншых навучальных устаноў, — накінулася кіраўнік на маладую настаўніцу.

— Што здарылася? — не чакаючы, пакуль утаймуецца дырэктарка, спытала перапалоханая падначаленая.

— Ваш вучань (назавём яго Дзімам. — У.К.), забраўшыся на касагор, кідаў камянямі ў вокны праходзячых электрычак. Адно з іх — разбіў. Зараз жа наведайце гэтую сям"ю, правядзіце пэўную работу, — не адступала дырэктар.

Заставалася — бегчы. Дзверы адчыніў «разбойнік з вялікай дарогі». Убачыўшы перад сабой сваю настаўніцу, выпаліў:

— У нас няма нікога дома.

І спрабаваў зачыніць дзверы перад самым носам настаўніцы. Але яна ў гэты момант паспела ўбачыць мужчынскія ногі на канапе. Сілком уварвалася ў кватэру, лёгка адштурхнуўшы ад сябе свайго выхаванца.

Не дачакаўшыся запрашэння сесці, пачала расказваць аб здарэнні на чыгунцы, аб выбітым акне. Мужчына ляніва падняўся з канапы і нервова зазначыў:

— Хіба не ведаеце, што цяпер па тэлевізары ідзе перадача «Поле цудаў». Цікава, ад экрана не адарвацца, а вы швэндаецеся, пра нейкія пабітыя вокны верзяцё.

Пасля такога выхаваўчага рэзюмэ ён зноў лёг на канапу, прагна сочачы за тым, якую чарговую літару назаве той ці іншы ўдзельнік перадачы.

Дамоў настаўніца вярнулася з высокім крывяным ціскам. А назаўтра ад той жа дырэктаркі выслухала яшчэ адну непрыемную тыраду: «Трэба часцей бываць у сем"ях сваіх вучняў", «Чаму дазваляеце сваім выхаванцам гуляць ля чыгункі?», «Дзе сёння будуць праводзіць свой вольны час хлопчыкі і дзяўчынкі вашага класа?»

Настаўніца маўчала. Ды што скажаш, калі перад табой чалавек, які адстаў ад жыцця на цэлыя дзесяцігоддзі: не тая сёння школа, не тая сёння сям"я. Не тая сёння грамадскасць. Адукацыю паставілі на калені. Адсюль усё і пачалося.

У КАНЦЫ жніўня дзеталюбівы бізнесмен у адну з мінскіх школ прывёз свайго сына афарміць вучнем першага класа. Іх суправаджалі целаахоўнікі. У калідоры за столікам сядзела настаўніца, якая прымала ад бацькоў дакументы. Але ў багатых свае прывычкі. Гэтым падавай дырэктара. Паклікалі.

— Мой сын будзе ў вас вучыцца. У чым маеце патрэбу? Я адзін з вядомых камерсантаў сталіцы, — пачаў выхваляцца мужчына.

— Нам бы піяніна, — не разгубілася дырэктар.

— Лічыце, што яно ў вас ёсць, — запэўніў бацька будучага вучня.

Ад радасці жанчына ледзьве мову не страціла. Зазначым, што такі музычны інструмент у школе паявіўся. Дырэктар навучальнай установы цяпер кожны дзень ціснe на класных кіраўнікоў, каб тыя больш актыўна выходзілі на сувязь з прадпрымальнікамі. А калі такіх бацькоў няма ў класе, што тады рабіць?

Вымушаны зазначыць, што такія кантакты маюць страшны адмоўны бок. Камерсанты, якія штосьці падарылі школе, перакананы, што з іх дзяцей настаўнікі, вобразна кажучы, будуць пылінкі здзьмухваць. І здзьмухваюць. Згадаўся аповяд адной мінскай настаўніцы. У іх школе адзін пяцікласнік нават не ўсе літары ведаў, чытаць нават па складах не навучыўся. А паспрабуй такому «двойку» паставіць — слязамі зальешся. І не ставілі, пераводзілі з класа ў клас, бо маці «вундэркінда» працавала дырэктарам нейкай шыкоўнай фірмы. Карацей кажучы, хтосьці ад кантактаў з гэтай асобай нешта меў. Што было б, каб педагогі павялі сябе строга і «абсыпалі» сына дырэктара фірмы «двойкамі»? Напэўна, тое, што і ў выпадку, пра які таксама ахвотна раскажу. У школу, што на вуліцы імя М.Багдановіча ў Мінску, прыслалі новенькую настаўніцу. Прызначылі кіраўніком педагагічна запушчанага класа. Да гэтага вучні яго чатыры гады былі прадастаўлены самі сабе. Усё, што ламалася, у гэтым класе было знявечана. Аднойчы яна звярнулася да хлопчыка Славы Масейкіна, каб яго бацька паставіў у дзверы новы замок — той быў адмысловым сталярам. Не адмовіў. Работу выканаў выдатна. Настаўніца перад класам аб"явіла Масейкіну-старэйшаму падзяку. Дні беглі сваёй чарадой. А Слава ўсё радзей і радзей пачаў заглядваць у падручнікі. Дайшло да таго, што настаўніца, у дзверы класа якой сталяр уразаў замок, паставіла Масейкіну-малодшаму двойку. У канцы тыдня, калі сын паднёс бацьку дзённік на праверку, той заўважыў «прыдзірлівасць» настаўніцы, якой ён рабіў дабро. Нібы на пажар, прынёсся ў школу і выдраў той замок, кінуўшы наўздагон настаўніцы: «Будзеце ведаць, як здзекавацца з майго Славіка».

З месяц не замыкаўся той клас, настаўніца не асмельвалася звярнуцца за дапамогай да каго-небудзь з бацькоў сваіх вучняў.

ПРЫВЕДЗЕНЫЯ факты зусім не дробязныя. Яны яскрава паказваюць, на якім хісткім фундаменце працуе сучасная, даведзеная да галечы школа. Сапраўдны настаўнік заўсёды павінен быць незалежным. Незалежным ад бацькоў сваіх вучняў. Незалежным ад тоўстага кашалька бізнесмена... Інакш ён губляецца як асоба. Чалавек з працягнутай рукой больш нагадвае жабрака. А сённяшняму настаўніку ўсё часцей і часцей даводзіцца працягваць руку.

Строгія летапісцы не засведчылі імя чалавека, які першы сказаў: «З гэтага дня школьныя класы будзем рамантаваць за сродкі бацькоў...» І панеслася. Прыжылося. Раней гэта было звычайнай з"явай: бацькоўскі камітэт збіраў грошы, набываў на іх неабходныя матэрыялы, прызначаў адказных. Тыя тры ці пяць рублёў, якія бацькі адшпільвалі ад свайго сямейнага бюджэту на такія мэты, заўсёды былі ў наяўнасці. Зусім іншы малюнак цяпер. Цэны на неабходныя для рамонту матэрыялы так высока сiганулі ўгору, што ўсёй бацькоўскай зарплаты не хопіць, каб узорна падрыхтавацца да новага навучальнага года. Разумею: кіраўнікі-недарэкі давялі нашу рэспубліку да торбы. Ды ўсё ж веру, што знойдзецца светлая галава, якая пазбавіць настаўніцтва ад не ўласцівай яму работы — рамонту школьных пакояў, навядзення ў іх марафету. Злачынна прымушаць настаўніка выконваць абавязкі прыбіральшчыцы. Яго гэтаму не вучылі. Я сам заканчваў педагагічны факультэт і ніяк не магу прыгадаць, каб за шэсць гадоў вучобы хтосьці з выкладчыкаў, уключаючы нават прафесараў і акадэмікаў, нам расказаў, як развесці фарбу, як трымаць пэндзаль і г.д. Яны добра ведалі, што гэтаму вучаць у іншых установах, дзе абучаюць іншым прафесіям.

НЯДАЎНА даведаўся, што выпускнік адной з мінскіх СШ падрыхтаваў слоўнік мянушак, якімі настаўнікі абзывалі школьнікаў. Веру, што такая кніга можа ўбачыць свет. Камерцыйныя выдавецтвы аддрукуюць што хочаш — толькі плаці. Асабіста мяне іншае цікавіць: ці папросяцца пасля выхаду такога зборніка педагогі той навучальнай установы ў адстаўку, бо яны не маюць права кантактаваць з дзецьмі. Напэўна, яны забылі наказы вялікіх асветнікаў пра тое, што ў самых адстаючых вучнях трэба ўмець запальваць факел цікаўнасці. Ведаю дзесяткі настаўнікаў, якія ў такіх сітуацыях гавораць: "Я веру ў цябе, у твае здольнасці", "Малайчына, да такога, бадай, і я не дадумалася б..." Падобная душэўнасць прыадчыняе дзіцячыя сэрцы, куды глыбей можа зазірнуць настаўнік.

Страшна, калі людзі, вобразна кажучы, запрэжаны ў адзін педагагічны воз, а цягнуць у розныя бакі, ні на мілю не жадаюць уступіць адно аднаму. Трэба ўсім, каму даверана праца ў школе, памятаць, што на ўрок з пугай не прыходзяць. Пуга — прылада пастуха. І карыстацца гэтай прыладай трэба таму, хто лепш умее ёю карыстацца, хто народжаны для такой справы.

*Уладзімір КОБРЫН.*

## МІНСКАЯ ХРОНІКА

### АДПРАЎЛЕНЫ Ў ПАКІСТАН

Першая тысяча беларускіх трактароў адпраўлена з Мінска ў Пакістан. Як паведамляе агенцтва РІД, тэхніка для апрацоўкі палёў адпраўлена замежным партнёрам на двух суднах з польскага порта Гдыня. Да канца гэтага года ў Пакістан будуць адпраўлены яшчэ дзве вялікія партыі трактароў.

### ТАКСІ МАРКІ "ПЕЖО"

У мінскім таксаматорным парку № 1 з"явіліся першыя таксі вядомай маркі "Пежо". Кошт праезду на камфартабельных машынах крыху большы, чым на "Волгах".

### ПА НОВАЙ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ

У Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме створана эксперыментальная група, дзе навучэнцы будуць рыхтавацца па новай спецыяльнасці — мастака-афарміцеля, спецыяліста ў галіне рэкламы.

### ДАПАМОГА МАЛАМАЁМНЫМ

Мінскі гарвыканком разгледзеў пытанне аб матэрыяльнай дапамозе маламаёмным грамадзянам. Выдзелены сродкі, якія праз райвыканкомы будуць выплачаны да канца снежня.

### СУПЕРМАГАЗІН ДЛЯ ЭЛЕКТРОНІКІ

На першым паверсе аб"яднання "Цэнтрасістэм" па Партызанскім праспекце адкрыўся дзяржаўны супермагазін па продажу бытавой электроннай тэхнікі айчыннай і замежнай вытворчасці. Як паведаміў Белінфарм, у салоне прадстаўлена каля 300 назваў вырабаў.

### НА АФІШАХ — ПРЭМ"ЕРЫ

Да юбілею беларускага кіно прымеркаваны некалькі новых стужак "Беларусьфільма". Заўтра ў Доме афіцэраў адбудзецца прэм"ера фільма рэжысёра Віктара Турава "Шляхціц Завальня" па кнізе Яна Баршчэўскага, а сёння ў кінатэатры "Кастрычнік" будзе ўпершыню дэманстравацца кінастужка "Кветкі правінцыі" рэжысёра Дзмітрыя Зайцава.

### УСЁ ДЛЯ ЛЯЧЭННЯ

У інстытуце "Белпраект", што па праспекце Машэрава, да 17 снежня адкрыта выстаўка "Медыцына-94". Каля васьмідзесяці прадпрыемстваў і фірм Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа прапануюць лекі і абсталяванне для медыцыны.

### У ЗАЛЕЖНАСЦІ АД РОСТУ

Бліжэйшыя да Мінска лясгасы падбіраюць участкі для нарыхтовак навагодніх ёлак. Яны будуць прадавацца ва ўсіх раёнах сталіцы. Вызначана і цана на "прыгажуню" — у залежнасці ад росту яна будзе каштаваць ад трох да дзевяці тысяч рублёў.

### ЮНЫЯ СКУЛЬПТАРЫ

Таленавітых юнакоў і дзяўчат аб"яднала выяўленчая студыя "Юны скульптар" пры спартыўным комплексе вытворчага аб"яднання "Гарызонт". Заняткі праводзіць заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі скульптар Іван Міско.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

■ Прырода і чалавек

## КОЛЬКІ Ж У ЛЕСА ГАСПАДАРОЎ?

**Даволі простая задача. Летась у лясах Любаншчыны вадзілася 90 дзікіх свіней. Па навукова абгрунтаваных нормах за год яны павінны даць 30 працэнтаў прыплоду. Памножылі? Адмінусуйце сем вепрукоў, якіх адстралялі па ліцэнзіях. Вынік нечаканы: сёлета спецыялісты знайшлі сляды ўсяго 70 дзікоў... І такая алагічнасць будзе паглыбляцца. Пакуль у лесе два гаспадары. Адзін — прафесіянал. Другі — аматар.**

### АМАТАР

Старшыня прэзідыума райсавета таварыства паляўнічых і рыбаловаў М.І.Маргалаў у лясных праблемах аматарам сябе не лічыць. Бо 15 гадоў пасля звальнення з арміі узначальвае гэтую арганізацыю.

— У таварыстве — 825 паляўнічых, мы арандуем 163 тысячы гектараў, — расказвае Міхаіл Іванавіч. — Наша задача не толькі паляваць, а і ахоўваць, падкормліваць жывёлу, праводзіць розныя біятэхнічныя мерапрыемствы па максімальнаму захаванню звяроў. Штат — сем чалавек: старшыня, паляўніцтвазнаўца, пяць егераў. Нам патрабуецца 11—12 егераў, хаця б на кожныя 10 тысяч гектараў па аднаму. Але пакуль што для гэтага не маем сродкаў.

Падобна, што і ў бліжэйшы час яны наўрад ці знойдуцца ў патрэбнай колькасці. Членскія ўзносы па 600 рублёў (20 працэнтаў мінімальнай зарплаты), сабраныя ў сакавіку, разляцеліся ўмомант. Тым больш што трэць іх пайшла на ўтрыманне абласнога, рэспубліканскага апарату. Галоўная крыніца даходаў — продаж пуцёвак на паляванне ў паляўнічай дачы на асенне-зімовы сезон. Каштуе адна пуцёўка 40 тысяч рублёў — дзве мінімальныя зарплаты. Можна было б папоўніць касу, прадаўшы мяса забітых жывёлін. Але летась і сёлета паляванне на ласёў, дзікоў, касуль забаронена. А за качку, вавёрку многа не выручыш...

### ПРАФЕСІЯНАЛ

Кіраўнік лясгаса М.А.Русаковіч прафесіянал не толькі па дыплому. Нядаўна праведзена рэвізія лясных угоддзяў. І аўтарытэтныя спецыялісты зафіксавалі: нягледзячы на мноства праблем, колькасць спелага лесу на Любаншчыне за апошнія дзесяць гадоў амаль падвоілася.

— Мясцовыя ўлады выдзелілі нам для догляду і палявання два лясніцтвы — Яменскае і Асавецкае, маўляў, пакажыце, на што вы здольныя, — гаворыць Мікалай Андрэевіч. — Мы адмовіліся, бо лясы гэтыя каля горада, вытаптаныя, выбітыя і пасупустыя.

Дырэктар лясгаса прыводзіць трывожныя лічбы. Дзесяць гадоў назад на Любаншчыне гулялі 163 ласі, цяпер — толькі 40, было 288 дзікоў, засталося 70, у чатыры разы менш стала і касуль. А ў верасні сёлетняга года райвыканком усе паляўнічыя ўгоддзі перадаў таварыству паляўнічых і рыбаловаў у арэнду. У лесе стала два гаспадары: вяпрук належыць таварыству паляўнічых, а тое, чым ён харчуецца, — лясгасу. Нядаўна заходзіў да нас стары чалавек з Калінаўкі, вялікі аматар прыроды. Моцна абураўся. Раней за сезон у лесе яму трапляла 8—12 скінутых ласіных рагоў. Сёлета ён знайшоў толькі ...адну галаву, кінутую браканьерамі. А ў нас як? Знікла ў абходзе дрэва — ляснік нясе строгую адказнасць. Трэба, каб так было і ў адносінах да звяроў. Няхай і жывым нашым багаццем распараджаецца дзяржава.

### ПОГЛЯД З БОКУ

Угоддзі Любаншчыны змыкаюцца з салігорскімі. У суседзяў паміж работнікамі лесу і паляўнічымі — ніякіх канфліктаў. Магчыма, і таму, што райсавет БТПР узначальвае М.І.Дубоўскі, біёлаг-паляўніцтвазнаўца — па дыплому, улюбёны ў прыроду чалавек — па характару. У імя якой ён гатовы на ўсё.

— Хаця арганізацыя наша грамадская, мы ў любы момант гатовы перайсці ў падпарадкаванне да лясгаса, — тлумачыць Міхаіл Іосіфавіч. — Ад чаго ахова прыроды толькі выйграла б.

Салігорскія паляўнічыя палічылі лішнім абласное звяно ў сваёй структуры, заявілі, што дзеля большай самастойнасці і эканоміі сродкаў яны падпарадкоўваюцца непасрэдна рэспубліканскаму савету. Каб паўней задаволіць патрэбы паляўнічых, зарабіць грошай, адкрылі свой магазін.

М.І.Дубоўскі лічыць:

— Каб захаваць раслінны, жывёльны свет для нашчадкаў, паляўнічыя ўгоддзі трэба перадаць у падпарадкаванне Камітэту па ахове прыроды. У лесе павінен быць адзін гаспадар.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

